# наша свабода

№32(259) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДУ

22 САКАВІКА 2002 году ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 2100-253, факс 2100-254

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ


З Днём Волі, шаноўныя чытачы! Шчасця, багатай незалежнай краіны, поспехаў кожнаму!

## Саюзная дзяржава – праект Захаду?

*Аляксандр Лукашэнка заявіў: «Нам трэба будаваць Саюзную дзяржаву, зыходзячы з уласных інтарэсаў, як вучыць спадар Буш».*

Кіраўнік Беларусі перакананы ў тым, што Беларусь і Расія павінны будаваць Саюзную дзяржаву, зыходзячы з уласных інтарэсаў. Пра гэта ён заявіў у чацвер на семінары кіраўнічых работнікаў органаў улады Беларусі.

Беларускі лідэр лічыць цяперашнюю сітуацыю, у якой знаходзяцца Беларусь і Расія, «вельмі складанай». Згодна з яго ацэнкай, яна «не лепшае, а горшае, бо мы незваротна страчваем свае рэсурсы, нічога не здабываючы ўзамен». Прычыну такога стану рэчаў А.Лукашэнка бачыць у тым, што «мы ствараем дзяржаву, арыентуючыся на эфемерныя мадэлі, якія навязвае нам Захад, а не на свае інтарэсы».

У сувязі з гэтым кіраўнік Беларусі нагадаў, што ЗША ўвялі дадатковыя пошліны на імпарт сталі, выходзячы выключна з нацыянальных інтарэсаў. «Нам трэба будаваць Саюзную дзяржаву, зыходзячы з уласных інтарэсаў, як вучыць спадар Буш», – зауважыў А.Лукашэнка.

Ён падкрэсліў, што Беларусь – «адзіны адданы саюзнік Расіі». Беларускі лідэр адзначыў, што калі б у свой час была рэалізавана «падкінутая Захадам» ідэя стварэння Балтыйска-Чарнаморскага саюзу з Беларуссю ў цэнтры, гэта прывяло б «да ізаляцыі Расіі». «Мы ў гэтай сітуацыі аказаліся слабым звяном для Захаду і моцным для Расіі», – заявіў А.Лукашэнка, нагадаўшы, што Беларусь рашуча адмовілася ад гэтай ідэі. «За гэта нас цяпер і малоцяць», – сказаў беларускі лідэр, маючы на ўвазе палітыку заходніх дзяржаваў адносна Беларусі. У гэтай сувязі ён пацвердзіў нязменнасць палітычнага курсу беларускага кіраўніцтва на развіццё саюзніцкіх дачыненняў з Расіяй.

**УА «Інтэрфакс»**

# *UEFA* дапаможа беларускаму футболу

*19 і 20 сакавіка ў Мінску знаходзіўся прэзідэнт Саюзу еўрапейскіх футбольных асацыяцый (UEFA) Ленарт Юхансан. У сераду ў Мінску ён праводзіў паседжанні 4-га семінару Бюро дапамогі ўсходнееўрапейскім футбольным асацыяцыям і Камітэту праграм дапамогі UEFA.*


Фота IREX/ProMedia

Л.Юхансан паведаміў, што Саюз еўрапейскіх футбольных асацыяцый павялічыць фінансавую дапамогу краінам Усходняй Еўропы – каб больш маладых людзей пачыналі сур'ёзна займацца футболам.

У працы камітэту бралі ўдзел 56 прадстаўнікоў кіраўніцтва нацыянальных футбольных асацыяцыяў з 13 краінаў Усходняй Еўропы.

Дарэчы, у свой час *UEFA* ужо дапамог абсталяваць мінскі стадыён «Дынама» сістэмай падагрэву футбольнага поля. Цяпер у выканкам Саюзу еўрапейскіх футбольных асацыяцый Беларусь накіравала прапановы аб фінансаванні рэканструкцыі стадыёнаў у Бабруйску і Салігорску.

**Міхась КАРПОВІЧ**

# Едзе госць з Анкары

*На наступным тыдні Мінск наведае намеснік міністра замежных справаў Турэцкай Рэспублікі Сенджар Азсой. Паводле афіцыйнай інфармацыі, прычына прыезду госця з Анкары – 10-годдзе ўсталявання дыпламатычных стасункаў з Беларуссю. Дарэчы, якраз Турцыя стала першай краінай, якая прызнала суверэнную Беларусь і адкрыла ў яе сталіцы пасольства. У сувязі з гэтым меркавалася, што першы турэцкі пасол стане дуайенам дыпкорпусу, акрэдытаванага ў Мінску. На жаль, гэтага не адбылося. Можа, таму, што ў незабыўных Драздах яго рэзідэнцыя была пад № 13.*

Паводле некаторых звестак, візіт турэцкага намесніка міністра не мецьме лёсавызначальнага значэння для абедзвюх краін. Высокі госць сустрэнецца са сваім беларускім калегам Аляксандрам Міхневічам і возьме ўдзел у шэрагу мерапрыемстваў, звязаных з 10-годдзем усталявання дыпламатычных стасункаў. Напрыклад, у Нацыянальным тэатры оперы і балету адбудзецца канцэрт з удзелам турэцкіх артыстаў. Трэба адзначыць, што пры працяглай замежнапалітычнай ізаляцыі кіраўнічага рэжыму чыноўнікі з краін *NATO* нават такога рангу не цешаць Беларусь сваімі візітамі. Тым не менш прыём турэцкага госця на вышэйшым, чым заяўлена, узроўні пакуль не прадбачыцца. Увогуле ў некаторых назіральнікаў складаецца ўражанне, што Мінск спрабаваў актыўней разыгрываць стасункі з Анкарой напярэдадні Стамбульскага саміту АБСЕ ў 1999 годзе. Тады Лукашэнка быў прыняты турэцкім прэзідэнтам у якасці госця саміту. Як вядома, такі гонар на долю кіраўніка беларускай дзяржавы выпадае вельмі рэдка. А крыху раней тагачасны кіраўнік беларускага МЗС Іван Антановіч любіў разважаць пра нібыта грандыёзныя перспектывы развіцця гандлёва-эканамічных стасункаў ад Поўначы да Турцыі праз Беларусь. Затым яго пераемнік Урал Латыпаў, мімаходзь згадаўшы Антановіча як гаваруна, спрабаваў развіваць беларуска-турэцкія адносіны больш чынна. Да надаўняга часу ён узначальваў двухбаковую камісію па гандлёва-эканамічных стасунках. Але, як не раз падкрэслівалі ў прыватных гутарках турэцкія бізнесмены і чыноўнікі, асноўная перашкода для развіцця гандлёва-эканамічных стасункаў паміж нашымі краінамі – адсутнасць надзейнай заканадаўчай базы. Надта ж часта беларускі бок своеасаблівa трактуе заканадаўчыя гарантыі. І зашмат усё залежыць ад волі аднаго чалавека.

Спробы праявіць сябе выяўляліся і ў пэўнай зацікаўленасці Мінску, каб паўдзельнічаць у вырашэнні кіпрскай праблемы.

Заканчэнне на стар.3




Падпісны індэкс НАШАЙ СВАБОДЫ 63478

# На МТЗ – новы дырэктар

Мінскі трактарны завод павінен застацца цэнтрам сусветнага трактарабудавання. Такую заяву зрабіў новы кіраўнік прадпрыемства Аляксандр Пухавы адразу пасля прызначэння на гэтую пасаду ўказам прэзідэнта.

«Мінскі трактарны завод і яго прадукцыя з'яўляюцца гандлёвай маркай Беларусі, і гэтым усё сказана. Калектыў з вялікім патэнцыялам, з вялікім вопытам і традыцыямі. Першае, што патрэбна зрабіць, – развіць гэтыя традыцыі і падтрымліваць так, каб МТЗ застаўся цэнтрам сусветнага трактарабудавання», – сказаў Пухавы.

На працягу бліжэйшага месяца Аляксандр Пухавы павінен прадставіць кіраўніку краіны план стабілізацыі вытворчасці на МТЗ. Паводле звестак Міністэрства статыстыкі і аналізу, на 1 сакавіка на складах МТЗ знаходзіліся 3,2 тысячы нерэалізаваных трактароў, ці 367,5 працэнта да сярэднемесячнага аб'ёму вытворчасці.

Аляксандр Пухавы нарадзіўся 25 жніўня 1950 году ў горадзе Беразіно (Мінская вобласць). Закончыў Беларускі політэхнічны інстытут. Працаваў механікам механізаванай калоны трэсту «Захадэлектрасеткабуд», інжынерам-тэхнолагам, начальнікам бюро, начальнікам аддзелу, галоўным інжынерам барысаўскага заводу «Аўтагідраўзмацняльнік», галоўным інжынерам – першым намеснікам генеральнага дырэктара Беларускага аб'яднання па вытворчасці аўтамабільных агрэгатаў (Барысаў). З 1997 году быў дырэктарам заводу «Аўтагідраўзмацняльнік». 20 сакавіка 2002 году заняў месца арыштаванага ў студзені былога дырэктара МТЗ Міхаіла Лявонава. Жанаты, мае трох дзяцей.

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

## ВЕСТКІ



### Для развіцця канькоў

На думку прэзідэнта Беларускага саюзу канькабежцаў Ігара Жалязоўскага, для паўнавартаснага развіцця ў нашай краіне канькабежнага спорту, шорт-трэку і фігурнага катання неабходна пабудаваць крыты зімовы стадыён: «Наяўнасць сваёй лядовай дарожкі дазволіць не траціць грошы на дарагія выезды спартсменаў для трэніровак і прыцягнуць да канькоў вялікую колькасць людзей». Праект будаўніцтва такога стадыёну ўжо гатовы. Каштаваць ён будзе прыкладна 9 мільёнаў даляраў.

### Біяпрыбіральні для менчукоў

Да лета бягучага году ў Мінску будзе ўсталявана два з паловай дзесяткі біяпрыбіральняў. Яны з'явяцца ў цэнтральных парках сталіцы, каля выставачных цэнтраў, у Траецкім прадмесці, паблізу Кастрычніцкай плошчы. Біяпрыбіральні ў Мінску будуць платныя. Усяго ж сёлета для менчукоў іх усталююць каля сотні.

### Энцыклапедыя дарог

Пабачыла свет энцыклапедыя «Аўтамабільныя дарогі Беларусі». Дарожныя будаўнікі і інжынеры, а таксама студэнты адпаведных спецыяльнасцяў знойдуць тут такія раздзелы, як «Будаўніцтва аўтамабільных дарог», «Дарожная архітэктура», «Дарожная экалогія».

### Крымінальная справа супраць мытніка

Адкрылася крымінальная справа адносна начальніка мытнага паста Магілёўскае мытні па артыкуле «за злоўжыванне ўладай альбо службовым становішчам». У снежні мінулага году, як падае радыё «Рацыя», кіраўнік структурнага падраздзялення Магілёўскай мытні пры афармленні мытнай дэкларацыі скраў больш за 11 мільёнаў рублёў.

### На Міншчыне пенсіянераў менее

Паводле звестак, апублікаваных Камітэтам працы і сацыяльнага забеспячэння Мінскай вобласці, трацігу ад усіх жыхароў рэгіёну складаюць пенсіянеры. 80% з іх атрымліваюць пенсію па ўзросце і за выслугу гадоў, 12% – па інваліднасці. За мінулы год колькасць пенсіянераў на Міншчыне скарацілася больш як на 4 тысячы чалавек.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




Крыніца: www.gismeteo.ru

## Курс наяўнага даляра на «чорным рынку»

1730

# Бог нам паможа, свет паспрыяе

20 сакавіка старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Івонка Сурвіла павіншавала грамадзян Беларусі з 84-й гадавінай абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі.

У сваім віншаванні яна адзначыла, што Дзень Волі беларусы будуць святкаваць у несвабоднай краіне, якая стала ахвярай лукашэнкаўскай улады. «На жаль, край наш і надалей пад ботам чужакоў ды іхных паплечнікаў. Таму і вымушаныя мы прадаўжаць змаганне за незалежнасць», – гаворыцца ў лісце, у якім Івонка Сурвіла заклікала суродзічаў задумацца над пытаннем захавання незалежнасці Беларусі, бо «многія цяперашнія праблемы з'яўляюцца вынікам абмежавання суверэнітэту краіны». «Толькі ў незалежнай Беларусі пазнае наш народ, што такое сапраўдная воля, што такое сапраўды быць гаспадаром у сваім доме... У нашых руках, і толькі ў нашых руках будучыня нашага народа і нашага прыгожага краю. Бог нам паможа, свет нам паспрыяе, але толькі мы можам зрабіць Беларусь вольнай і незалежнай дзяржавай ды выратаваць яе ад смерці», – гаворыцца ў віншаванні Івонкі Сурвілы.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

# На мітынг – па платным квітку

Праз тыдзень пасля таго, як арганізатары маючага адбыцца ў Пінску 24 сакавіка мітынгу «За дастойнае жыццё, супраць жабрацтва і бяспраўя» падалі заяўку ў тамтэйшы гарвыканкам, іх зноў запрасілі ў гэтую ўстанову. У кабінеце намесніка старшыні сп.Канеўскага кіраўнік рэгіянальнага аддзялення «Вясны» Алесь Марголь і сябра грамадскага аб'яднання «Беларускі Хельсінкскі Камітэт» Сяргей Касцюковіч атрымалі рахунак на 240 000 беларускіх рублёў. Гэта выглядала як прапанова заплаціць за магчымасць быць пачутымі пінчукамі ў своеасаблівай рэзервацыі галоснасці на стадыёне «Прыпяць». Чыноўнік спаслаўся на цяжкае эканамічнае становішча спартовай арэны камунальнай уласнасці: таму, маўляў, разлік за мітынг нібыта павінен адпавядаць кошту квітка па тарыфе футбольнага матчу – па 800 рублёў на кожнага з 300 заяўленых удзельнікаў мітынгу. Просьба перагледзець гэта абсурднае рашэнне застаецца пакуль без здавальнення.

**Наталля АСМАЛОЎСКАЯ**

# Даражэюць аўто з Еўропы

На польскіх межах уведзены новы акцызны падатак на ўжываныя аўтамабілі. Сумы падатку ў некаторых выпадках выраслі ў 8 разоў. Пра гэта паведаміла прэс-служба Міністэрства замежных справаў Беларусі са спасылкай на інфармацыю беларускага генеральнага консульства ў Гданьску.

Раней акцызны падатак складаў 6,4% ад кошту аўтамабіля з аб'ёмам рухавіка да 2 000 куб. см і 17,6% – для аўтамабіляў з аб'ёмам рухавіка больш за 2 000 куб. см.

З гэтай нагоды МЗС інфармуе грамадзянаў Беларусі аб магчымым узмацненні кантролю за транзітам праз тэрыторыю Польшчы, у тым ліку ў Беларусь, ужываных аўтамабіляў і аб магчымым павелічэнні зваротнай сумы закладу на час транзіту.

**БелаПАН**

**ЦЯПЕРАШНІМ ЧАСАМ ПРЫМЯНЯЮЦЦА НАСТУПНЫЯ СТАЎКІ АКЦЫЗНАГА ПАДАТКУ (У ПРАЦЭНТАХ АД АЦЭНАЧНАГА КОШТУ ЎЖЫВАНАГА АЎТАМАБІЛЯ)**

| Тэрмін эксплуатацыі | Аб'ём рухавіка да 2 000 куб. см | Аб'ём рухавіка больш за 2 000 куб. см |
|---|---|---|
| да 2 гадоў | 3,1 | 13,6 |
| 3 гады | 15,1 | 25,6 |
| 4 гады | 27,1 | 37,6 |
| 5 гадоў | 39,1 | 49,6 |
| 6 і больш гадоў | 51,1 | 61,6 |

# Кайданкі для «вертыкальшчыка»

Раніцай 20 сакавіка ў Дзяржынску затрымалі кіраўніка райвыканкаму Уладзіміра Ткачова. Яго падазраюць у злоўжыванні службовым становішчам.

Уладзіміра Ткачова затрымлівала як самага небяспечнага злачынцу група захопу спецпадраздзялення МУС «Алмаз». Узброеныя людзі ў масках выламалі дзверы, уварваліся ў хату і надзелі кайданкі дзяржынскаму «вертыкальшчыку».

Паводле атрыманых звестак, спецпадраздзяленне «Алмаз» невыпадкова было задзейнічана ў затрыманні спадара Ткачова. Рэч у тым, што «вертыкальшчык» з дазволу праваахоўных органаў меў у хаце зброю – пісталет Макарава і газашротавы пісталет. І міліцыянты асцерагаліся, што Ткачоў паспрабуе супраціўляцца.

Між іншым, закон «Аб зброі» забараняе жыхарам Беларусі мець у асабістым карыстанні баявую зброю.

Наагул кіраўнік Дзяржынскага раёну на ачольванай ім тэрыторыі законаў, як той казаў, не чытае, ды свае мае. За бюджэтныя грошы ён, напрыклад, збудаваў шыкоўны катэдж. Менавіта існаванне гэтага катэджу і стала цяпер галоўным сведчаннем віны «вертыкальшчыка» ў злоўжыванні службовым становішчам.

Крымінальную справу Уладзіміра Ткачова расследуе пракуратура краіны. Гэта абумоўлена не толькі тым, што спадар Ткачоў кіраваў райвыканкамам: ён таксама дэпутат Мінскага абласнога савету.

**Ян МІКАЛАЕЎ, радыё «Рацыя»**

# У траўні – новыя вучэнні

У найбліжэйшы час краіны-суседзі Беларусі будуць апавяшчаныя пра тэрміны вучэнняў, не меншых па сваім узроўні за «Нёман-2001». Комплексная камісія Мінабароны Беларусі на чале з начальнікам Генштабу Сяргеем Гурулёвым ужо наведала штаб Паўночназаходняга аператыўнага камандавання (г. Барысаў), у зоне адказнасці якога плануецца правесці ў траўні вучэнні.

**Юрый КАСЬЯНАЎ**

# Як ачысціць брэсцкія «памыі»?

Трывожнае становішча ў басейне ракі Заходні Буг разгледжана на адмысловай міжнароднай навуковай канферэнцыі ў горадзе Седльцах, арганізаванай польскім Цэнтрам еўрапейскай інфарматыкі. У прысутнасці экспертаў грамадскіх фондаў і структураў Еўрасаюзу нашыя найбліжэйшыя суседзі занепакоены абмяркоўвалі маруднае прасоўванне ў Беларусі супольнага праекту па развіцці Брэсцкіх ачышчальных збудаванняў, аварыйны стан якіх пагражае чысціні памежнай ракі. А сёння вусце Бугу – найважнейшая крыніца вады для больш як 2,5 мільёнаў насельнікаў Польшчы.

Усяго за 800 метраў ад добра вядомага ўсім памежнага пераходу «Варшаўскі мост», што ля Брэсту, кожныя суткі цяпер выліваецца ў лагуны (штучныя вадаёмы-адстойнікі) да 125 тысяч кубічных метраў брудных гарадскіх сцёкаў. Гэта крытычная нагрузка, бо ачышчальныя збудаванні 1969 году, нарошчаныя ў 1981 і 1992 гадах, ужо зноў запоўненыя пад завязку глеевымі адкладаннямі. Каб павялічыць месца для збору большай колькасці сцёкаў, трэба ачысціць дно рэзервуараў ад 250 тысячаў тон вязкага асадку. Будаваць новыя адстойнікі немагчыма: у рызыкоўнай блізкасці ад русла Бугу 8 рукатворных сажалак займаюць ажно 40 гектараў.

Грошы заўжды абмінаюць гэты смярдзючы брэсцкі аб'ект, а спусташэнне гарадской казны дзеля пабудовы Лядовага палацу толькі дадало ў трубы бруднай вільгаці і развеяла спадзяванні на дзяржфінансаванне праекту па апрацоўцы глею на ачышчальных збудаваннях. Пры такім перакосе прыярытэтаў нашыя суседзі па Балтыйскім рэгіёне адчулі сябе ў ролі закладнікаў экалагічнай катастрофы. Таму яшчэ з 2000 году Еўрасаюз накіроўвае па лініі гуманітарнай праграмы *TACIS* у Брэст адмысловцаў Дацкага агенцтва аховы навакольнага асяроддзя (*DEPA*) і Польскага нацыянальнага фонду аховы навакольнага асяроддзя. На месцы замежныя эксперты прыйшлі да высновы, што магчыма рэканструяваць адзін з будынкаў, каб заснаваць тут механічнае абязводжванне глеевых адкладанняў. З гэтага арганічнага рэчыва можна мець нават пэўную гаспадарчую карысць. І хоць прадстаўнікі ЕС адразу прапанавалі зручныя ўмовы супольнага праекту, абяцаючы пастаўку з Даніі дзвюх тэхналагічных установак, наш бок спрабаваў выцыганіць яшчэ большыя льготы. Урэшце толькі на другі год стала вядома, што на праект «Скарачэнне экалагічнай пагрозы адназапашанага глеевага асадку ў Брэсце» трэба 750 тысячаў амерыканскіх даляраў. 47% гэтай сумы выдаткоўвае *DEPA* (Данія), 35% – Польскі фонд аховы навакольнага асяроддзя, 10% – *TACIS* і толькі 8% мае адшукаць Брэсцкі гарвыканкам. Аднак, паколькі гэтыя выдаткі загадзя не былі вылучаны ў асобны артыкул гарадскога бюджэту на бягучы год, пачатак рэалізацыі еўрапраекту застаецца праблематычным. За сваю грашовую долю гаспадары «памыйніцы» павінны зрабіць рэканструкцыю будынку для мантажу ў ім абсталявання з Даніі.

**Галіна БАРАВАЯ**

**Даведка НАШАЙ СВАБОДЫ**

Заходні Буг – рака, што працякае па тэрыторыях Беларусі, Польшчы і Украіны. Даўжыня рэчышча 772 кіламетры. Выток бярэ на заходніх схілах Падольскага ўзвышша Львоўскай вобласці. У сваім сярэднім цячэнні (154 км) праходзіць па Брэсцкім Палессі і Прыбугскай раўніне. Упадае ў Зягжынскае вадасховішча на р.Нарве (Польшча). Заходні Буг – адна з асноўных артэрыяў на гістарычным водным шляху між Чорным морам і Балтыйскім.

# Цыганскія налёты ў Кобрыне

Выпадкова ці не, але сёлета самыя скандальныя ў Беларусі крымінальныя справы з удзелам цыганоў успыхваюць менавіта ў Кобрынскім раёне на Брэстчыне. У лютым на аўтатрасе Брэст–Мінск ля вёскі Тэўлі тамтэйшыя пінкертоны затрымалі механізаваны табар на двух легкавіках. Нягледзячы на ўласцівую цыганам гарачнасць і хітрыкі, усё ж прафесійная пільнасць міліцэйскіх сяржантаў Кобрынскага ГРАУС У.Петрыка і А.Мароза перамагла. На сённяшні шасці цыганкам прад'яўлена абвінавачанне па ўжо выкрытых 12 крадзяжах у гарадах і вёсках Беларусі. «Бедныя дамы» ў квяцістых уборах з Харкаўскай і Днепрапятроўскай абласцей выцыганілі у міласэрных людзей 64 залатыя вырабы, 8 тысячаў даляраў, 1 мільён 359 тысячаў расійскіх рублёў.

Зараз Кобрын зноў ускалыхнуў нахабны цыганскі налёт на кватэрны асабняк былога старшыні тамтэйшага райвыканкаму Сяргея Ашмянцава. «Вертыкальшчык» атрымаў службовае падвышэнне ў Брэст і, як той казаў, прападае зараз удалечыні ад свайго прыватнага жылля. Як сведчыць міліцэйская зводка ад 15 сакавіка, катэдж без гаспадароў быў абрабаваны цыганамі сярод белага дня. Спачатку доўга грукалі ў дзверы жанчыны, а пасля спешна выносілі найбольш каштоўныя рэчы мужчыны, падляцеўшы на грузавіку.

**Мікола НЯЗЛОМНЫ**

# У прафкам заселяць камерсантаў

Без свайго працоўнага месца засталася супрацоўніца прафсаюзнага камітэту навapолацкага заводу «Вымяральнік» Вольга Змітрачэнка. Яе кабінет, дзе захоўваецца таксама бібліятэка дапаможна-метадычнай літаратуры, адміністрацыя прадпрыемства будзе здаваць камерцыйнай структуры. Апроч прымусовага высялення В.Змітрачэнку чакае звальненне па скарачэнні з 1 красавіка. Такі самы лёс напаткае і намесніка старшыні прафкаму гэтага немалога прадпрыемства індустрыяльнага гораду.

**Аркадзь СІВЫ**

# Ахоўны рэжым для рэк

Беларускі ўрад ухваліў Палажэнне аб водаахоўных зонах і прыбярэжных палосах вялікіх і сярэдніх рэк Беларусі. Водаахоўная зона – гэта тэрыторыя, прылеглая да акваторыі ракі, дзе ўсталёўваецца адмысловы рэжым, каб запабегчыць забруджванню вадою і негатыўным зменам у навакольных экасістэмах; прыбярэжная паласа – частка водаахоўнай зоны, што непасрэдна прымыкае да берагоў ракі.

У межах водаахоўных зонаў забараняецца, у прыватнасці, авіяцыйная апрацоўка ядахімікатамі і падкормка мінеральнымі ўгнаеннямі сельскагаспадарчых і лясных прыдобаў, размяшчэнне жывёлагадоўчых фермаў, прамысловых прадпрыемстваў ці аб'ектаў для захоўвання таксічных рэчываў, тых жа ўгнаенняў і нафтапрадуктаў. Апрача таго, забарона накладаецца на здабычу карысных выкапняў і меліярацыйныя работы, на размяшчэнне і будаванне ў гэтых мясцінах жывёльных могільнікаў, могілак, аўтастаянак, гаражоў, пунктаў тэхнічнага абслугоўвання і мыцця аўтамабіляў, бензакалонак. У прыбярэжных палосах нельга таксама пасвіць жывёлу, размяшчаць лецішчы, базы адпачынку, высякаць дрэвы і кустоўе.

Якія ж рэкі ў нас лічацца вялікімі, а якія сярэднімі? Вялікія – тыя, дзе вадацёк ад вытоку да вусця складае не меней за паўтысячы кіламетраў: Дняпро, Заходняя Дзвіна, Заходні Буг, Нёман, Сож, Прыпяць, Бярэзіна, Гарынь. Сярэдняя рака мае вадацёк ад 200 да 500 км: Ясельда, Бесядзь, Вілія, Свіслач, Шчара, Пціч, Друць, Іпуць ды іншыя.

Згаданае Палажэнне вызначае мінімальную і максімальную шырыню водаахоўных зонаў для гэтых рэк; яна можа сягаць ад 200 м да 16 км.. Дарэчы, з вялікіх і сярэдніх рэк самыя высокія індэксы забруджвасці вады – у Свіслачы, Прыпяці і Гарыні.

**Кірэй МАНУЙЛА**

# У Лідзе страусы нясуць яйкі

Упартая настойлівасць лідскага фермера Віктара Тарасевіча, з якой ён імкнуўся атрымаць хоць які прыбытак на развіцці прыватнага страусятніка, узнагароджаная першым аптымістычным вынікам. Пасля двух гадоў акліматызацыі трох даўганогіх птушак з Аўстраліі на курыным двары гаспадара з Прынямоння адзіная самка знесла яйка. Для замераў яго трымалі аберучч, бо знаходка ў тоўстай шкарлупіне велічынёю з дзіцячы мячык мае вагу 1,1 кілаграма.

Паколькі першае яйка страуса ніколі не дае прыплоду, то і гэтае аддалі на задавальненне цікаўнасці малых і дарослых. У сям'і Тарасевічаў ёсць намер захаваць яго да Вялікадня і зрабіць самую шыкоўную пісанку.

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

# Апошнія дні рыбалкі



Фота Ул.ШЛАПАКА

З панядзелка, 25 сакавіка, у Беларусі на перыяд веснавога нерасту ўводзяцца забароны і абмежаванні на лоўлю рыбы. Згодна з пастановай Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, у перыяд веснавога нерасту рыбы забараняецца прамысловае і аматарскае рыбалоўства ў водных прыдобах:

Брэсцкай вобласці – з 25 сакавіка па 23 траўня, а на Белым возеры ў Драгічынскім раёне – з 1 красавіка па 9 чэрвеня;

Гомельскай вобласці – з 25 сакавіка па 23 траўня, на Дняпры ад паселішча Верхнія Жары Брагінскага раёну да дзяржаўнай мяжы з Украінай – з 25 сакавіка па 2 чэрвеня, а на возеры Чырвоным у Жыткавіцкім раёне – з 24 красавіка па 23 траўня;

Віцебскай, Гродзенскай, Мінскай і Магілёўскай абласцей – з 1 красавіка па 30 траўня.

У згаданыя перыяды ў рыбалоўных прыдобах забаронена выкарыстанне маторных плавальных сродкаў. Разам з тым у гэтыя тэрміны дазваляецца аматарская лоўля рыбы ў светлы час з берага адной паплаўковай вудай з адным кручком на рыбалова на ўчастках азёраў, вадасховішчаў і рэк, якія ўнесены ў спісы, зацверджаныя дадзенай пастановай.

**БелПАН**

# Пісьменнікі расскандаліліся

## Саюз пісьменнікаў склікае чарговы пазачарговы з'езд

19 сакавіка рада Саюзу беларускіх пісьменнікаў вырашыла правесці ў траўні 2002 году пазачарговы з'езд арганізацыі. Рашэнне наколькі нечаканае, настолькі і дзіўнае: у траўні 2001 году Саюз збіраў 13-ы пазачарговы з'езд. Год таму спробы групоўкі сябраў Саюзу пісьменнікаў у складзе 60 чалавек (усяго ў СП уваходзіць блізу 500 літаратараў) расколоць Саюз і падпарадкаваць яго ўладам праваліліся. Гэтым разам крыло СП на чале з намеснікам старшыні Віктарам Праўдзіным хоча змяніць на пасадзе старшыні Саюзу пісьменнікаў Вольгу Іпатаву.



Фота Ул.ШЛАПАКА(архіў)

Рада СП 19 сакавіка вярнула нядаўна звольненым Віктару Праўдзіну ды Уладзіславу Мачульскаму пасады намеснікаў і прызначыла на травень пазачарговы 14-ы з'езд Саюзу.

Звольнены з пасады першага намесніка старшыні Віктар Праўдзін, які мяркуе зрабіць асноўны даклад на з'ездзе, адмовіўся даваць нейкія каментары. У інтэрв'ю «Звяздзе» В.Праўдзін заявіў: «Несумненна, на з'ездзе будзе вырашацца пытанне аб кіраўніку Саюзу. Гэта пытанне буду ўзнімаць асабіста я, бо лічу, што яно самае актуальнае. Сітуацыя патрабуе, каб пісьменнікі з усіх сіл працавалі на карысць народа, а не асобных суполак. Іменна гэта задача была пастаўлена перад Вольгай Іпатавай, калі яе выбіралі на пасаду старшыні. На жаль, Вольга Міхайлаўна з гэтай задачай не справілася. Пытанне аб старшыні неабходна ўзнімаць, каб творчая арганізацыя не загінула з-за аднаго чалавека, які не вытрымаў выпрабавання меднымі трубамі і забыўся, што за яго плячыма – пяцьсот чалавек пісьменнікаў».

Фактычна В.Праўдзін абвінаваціў старшыню Саюзу ў супрацоўніцтве з апазіцыяй. А вось што думае наконт гэтага сама Вольга Іпатава. «Які з'езд? Калі, напрыклад, Лойка, Законнікаў прапануюць праводзіць з'езд па пытаннях літаратуры, то Праўдзін і частка, якая стаіць за ім, прапануе праводзіць з'езд па зняцці старшыні – у іх пытанне ўжо вызначана. Пасля той сітуацыі, калі яны зрабілі правакацыю супраць мяне і ўсё гэта ляснула, мне здавалася, што яны павінны былі б пасыпаць галаву попелам, папрасіць прабачэння і пачаць новае жыццё. Яны ж пайшлі далей па шляху разбурэння. Але гэта іх права».

Вольга Іпатава заяўляе, што яблыкам разладу ў гэтым канфлікце ніякім чынам не выступае барацьба за Дом літаратара, які ўжо колькі гадоў знаходзіцца на балансе кіраўніцтва справамі прэзідэнта. «Тут палітыка, палітыка чыстай вады. Праўдзін заявіў аб гэтым: маўляў, яна (В.Іпатава. – **Р.Б.**) якшаецца з апазіцыяй, цягне нас у палітыку. Вось асноўнае абвінавачанне. Маўляў, з ёй у нас няма перспектывы. Я гэтага чакала ў адказ на свае артыкулы ў «ЛіМе». Яны хочуць перавесці канфлікт у фінансавую плоскасць. У мяне ж няма ніякіх фінансавых інтарэсаў – я змагаюся за Дом літаратара дзеля таго, каб ён належаў літаратарам, а не кіраўніцтву справамі прэзідэнта. Няма ніякага фінансавага канфлікту. Рэч у іншым: або будзе раўнапраўны дыялог з уладай пісьменнікаў, якія не страцілі годнасці, або поўзанне на каленях, поўная здача сябе і пісьменніцкага гонару», – заявіла Вольга Іпатава.

**Рыгор БУЯН**

# Здароўе ратуйма самі

*Савет Рэспублікі ўхваліў новую рэдакцыю закону Рэспублікі Беларусь «Аб ахове здароўя». У ёй шмат новых артыкулаў.*

Напрыклад, упершыню гаворыцца аб адказнасці грамадзянаў за захаванне свайго здароўя і здароўя іншых людзей, аб эканамічнай зацікаўленасці юрыдычных і фізічных асобаў у ахове здароўя.

Самае галоўнае ва ўсякай дзейнасці – фінансаванне. Законам прадугледжана, што фінансавацца дзяржаўная сістэма аховы здароўя будзе са сродкаў рэспубліканскага і мясцовага бюджэтаў з разліку патрэбаў на аказанне медычнай дапамогі на аднаго жыхара. Фармулёўка добрая, але ў нашай краіне на аднаго жыхара прадугледжана не болей за 60 даляраў. За гэтыя грошы трэба набыць абсталяванне, лекі і яшчэ на заробак пакінуць. Для даведкі, у ЗША на аднаго жыхара прадугледжана 2 500 даляраў, у Францыі – 1 500, у Японіі – ад 1 500 да 2 000 даляраў. Нават калі дазволеныя гэтым законам крыніцы фінансавання – даходы ад камерцыйнай дзейнасці дзяржаўных медычных структур, сродкі ад медычных відаў страхавання, падзыкі банкаў, добраахвотныя ахвяраванні фізічных і юрыдычных асобаў і іншыя крыніцы, не забароненыя заканадаўствам, – будуць працаваць, то ўсё роўна наша медыцына не хутка наблізіцца да ўзроўню, напрыклад, нямецкай. На жаль, у законе няма нормы, якая б прадугледжвала штогадовае фінансаванне дзяржаўнай сістэмы аховы здароўя ў аб'ёме адносна ВУП, вызначаным Канцэпцыяй развіцця аховы здароўя РБ (7,5% ад ВУП да 2005 году, а далей – да 10%). Цяпер на ахову здароўя выдаткоўваецца толькі 5% ад валавога ўнутранага прадукту.

Самы маленькі артыкул закону прысвечаны заробку медычных работнікаў. Вызначана, што ён «усталёўваецца ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь». Прафсаюз медыкаў прапаноўваў канкрэтызаваць гэты артыкул такім чынам: заробак медыкаў рэгулюецца ўрадам краіны, зыходзячы з узроўню заробкаў у іншых галінах народнай гаспадаркі і з улікам прыярытэту сферы аховы здароўя. Узровень аплаты працы медыкаў не можа быць ніжэйшы за ўзровень заробку работнікаў прамысловасці і павінен карэктавацца кожны месяц паправачным каэфіцыентам. А Камісія па ахове здароўя, справах моладзі і сям'і НС РБ прапаноўвала ўвесці пагадзінную аплату працы медыкаў. На жаль, гэтыя прапановы не былі прынятыя. Таму не трэба здзіўляцца, што дактары з дзяржаўных медычных установаў зноў будуць дабіраць з нашых кішэняў тое, што ім недадала дзяржава.

Упершыню ў закон уключана такія артыкулы, як «Штучнае апладненне», «Прымяненне метадаў стэрылізацыі», «Змяненне, карэкцыя палавой прыналежнасці», «Штучнае перапыненне цяжарнасці», «Анатамічны дар» і іншыя. Апошнім часам у грамадстве было шмат гаворак пра забарону абортаў. Адпаведны артыкул закону дазваляе праводзіць гэтую аперацыю на жаданні жанчыны да 12 тыдняў цяжарнасці і да 22 тыдняў – па медычных і сацыяльных паказаннях. Рашэнне аб анатамічным дары часткі ці ўсяго цела грамадзянін выказвае пісьмова, завярае у натарыуса і мае права пазней адмяніць яго. Зразумела, калі паспее ўсё гэта зрабіць пры жыцці, бо права на выкарыстанне анатамічнага дару ўзнікае пасля канстатацыі біялагічнай смерці грамадзяніна. Законам дазволена і правядзенне клінічных і медыка-біялагічных даследаванняў на чалавеку. Зразумела, з яго пісьмовай згоды і калі яму растлумачылі мэты і чаканыя вынікі. Згодна з законам, эўтаназія ў нашай краіне забаронена.

З новай рэдакцыі закону выключана такая важная і несумненна дэмакратычная норма, як права грамадзянаў на свабодны выбар доктара і медыцынскай установы. Нічога ў новай рэдакцыі не гаворыцца аб праваой і сацыяльнай абароне асобаў-носьбітаў вірусу набытага імунадэфіцыту чалавека. Затое ўпершыню заканадаўча замацавана права маці на шпіталізацыю з хворым дзіцем за кошт бюджэтных сродкаў і права на забеспячэнне дзяцей у веку да 3 гадоў, а дзяцей-інвалідаў – да 18 гадоў, бясплатнымі лекамі па рэцэптах.

Законам вызначана, што агульная сістэма аховы здароўя складаецца з дзяржаўнай і прыватнай сістэмаў пры вядучай ролі дзяржаўнай аховы здароўя. Пры гэтым дзяржаўным медычным установам дадзена права на аказанне платных паслугаў. Мінулым летам Савет міністраў зацвердзіў пералік платных медпаслугаў. Сярод іх – складаныя і нятанныя даследаванні, атрыманне розных даведак. Раней атрымлівалася так: калі чалавек ляжыць у клініцы з хворымі ныркамі, то за даследаванне сэрца ўжо павінен плаціць.

У медыцынскіх колах часта задаюць пытанне: ці была патрэба ў прыняцці новай рэдакцыі закону? У краіне нічога не змянілася: ні Канстытуцыя, якая гарантуе бясплатную медыцыну, ні прынцыпы арганізацыі медычнай дапамогі. На думку медыкаў, у новай рэдакцыі закону «згубіліся» сацыяльныя гарантыі. Калі доктар думае пра свой пабочны заробак, пацыент насамрэч застаецца адзін на адзін з хваробамі.

**Аксана ЯНОЎСКАЯ**

# Едзе госць з Анкары

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Вядома, што пад эгідаю ААН працягваюцца шматгадовыя перамовы паміж кіраўнікамі Рэспублікі Кіпр і Турэцкай Рэспублікай Паўночнага Кіпру. Як адна з краін-заснавальніц ААН, Беларусь магла б паспрыяць ходу гэтых перамоваў – але не з сённяшнім сваім іміджам.

Пасля Стамбульскага саміту АБСЕ цікавасць Беларусі да Турцыі стала неяк астываць. Яно і зразумела. Галоўны стратэгічны саюзнік Турцыі – ЗША, жорстка настроеныя да палітыкі Лукашэнкі. Дзеля справядлівасці варта адзначыць і тое, што для натаўскай Турцыі галоўнай замежнапалітычнай задачай стала як найглыбейшая інтэграцыя ў Еўрапейскі Саюз. Ясна, што паглыбленне і пашырэнне сувязяў з такім рэжымам, як беларускі, аніяк не можа спрыяць такой інтэграцыі. Таму, на думку назіральнікаў, Анкара пачала ставіцца да Мінску больш стрымана. Не сакрэт, што ў Анкары пільна назіраюць і за дынамічным развіццём стасункаў Беларусі з Арменіяй, ці не самым актыўным (поруч з Беларуссю, вядома) сябрам Дамовы аб калектыўнай бяспецы краін СНД. Не тое каб гэтым краінам адмаўлялася ў праве адстойваць уласныя нацыянальныя інтарэсы. Але нярэдка, калі кіраўнікі абедзвюх краін, асабліва Беларусі, закраналі тэмы бяспекі, рабіліся вельмі выразныя намёкі на супольнасць трывог, звязаных з тым, што і Арменія, і Беларусь мяжуюць з *NATO*. Зразумела, што такога кшталту заявы наўрад ці маглі спрыяць росту ўзаемаразумення ў гэтых рэгіёнах.

Трэба думаць, што афіцыйная прапаганда ў Беларусі будзе спрабаваць падаць прыезд турэцкага намесніка міністра як яшчэ адзін доказ неіснавання палітычнай ізаляцыі. Не выключана, што са спасылкаю на неафіцыйныя крыніцы ў розных беларускіх дзяржаўных структурах будуць казаць і пра нейкія канфідэнцыйныя вусныя дамоўленасці, выгадныя для паноўнага рэжыму. Але, паводле іншых крыніц, падставаў для нейкіх кулуарных дамоўленасцяў няма. Візіт мае насіць выключна пратакольны характар.

**Раман ЯКАЎЛЕЎСКІ**

# Латвійскі Сойм адмовіўся ад расійскай мовы

У аўторак на сваім нечарговым паседжанні латвійскі Сойм ухваліў змены ў Канстытуцыю краіны, скіраваныя на замацаванне манапольнага становішча латышскай мовы ў жыцці грамадства.

Хоць Канстытуцыя Латвіі змяшчае артыкул аб латышскай мове як дзяржаўнай, партыі правай арыентацыі прапаноўваюць развіць гэты тэзіс яшчэ ў чатырох артыкулах Асноўнага закону, каб зрабіць сітуацыю незваротнай.

Распрацаваны партыямі ўрадавай кааліцыі законапраект патрабуе ўзаконіць латышскую мову ў якасці працоўнай у Сойме і самакіраваннях, а таксама прадугледжвае, каб дэпутаты парламенту краіны, прыступаючы да выканання дэпутацкіх абавязкаў, давалі ўрачыстае абяцанне «быць верным Латвійскай Рэспубліцы, абараняць яе суверэнітэт і дзяржаўную мову».

На паседжанні прысутнічалі 95 дэпутатаў з 100-мандатнага латвійскага Сойму. За прапанаваны законапраект аб гарантыях дзяржаўнасці латышскай мовы прагаласавалі не толькі дэпутаты партый урадавай кааліцыі, але таксама сацыял-дэмакраты і дэпутаты ад Новай хрысціянскай партыі. Супраць былі толькі 16 дэпутатаў фракцыі «За правы чалавека ў адзінай Латвіі». Прыхільнікам расійскамоўя ў Латвіі цяпер будзе складаней даводзіць неабходнасць мець мову суседняй краіны за другую дзяржаўную.

**Петрас РЫЧКОМІС**



# Камп'ютэрная гульня для расістаў

З'яўленне на камп'ютэрным рынку новай гульні ў стылі *3D Action* выклікала гучны скандал у Злучаных Штатах. Праграма называецца «Этнічная чыстка». Галоўны герой гульні – баявік, які атрымлівае заданне знішчыць у сваім горадзе прадстаўнікоў аднае этнічнае групы. Паводле задумы аўтараў, баявая місія праводзіцца супраць габрэяў, афраамерыканцаў або лацінаамерыканцаў. Грамадскія арганізацыі па правах чалавека ўжо падалі ў суд на распрацоўшчыка камп'ютэрнай гульні, цвердзячы, што трохмерная «стралялка» мае адкрыта расісцкую скіраванасць. Праваабаронцы таксама занепакоеныя тым, што праграма карыстаецца вялізнай папулярнасцю сярод падлеткаў.

# Амерыканцаў узрываюць у Перу

*Восем чалавек загінулі пры выбуху каля амерыканскага пасольства ў сталіцы Перу – Ліме. Тэракт здарыўся праз лічаныя дні пасля гібелі двух амерыканцаў у Пакістане і менш як за тыдзень да прыезду прэзідэнта Буша ў Перу.*

Адразу некалькі выбухаў прагучалі ў гэтую сераду ў перуанскай сталіцы. Першай мішэнню тэрарыстаў стала прадстаўніцтва іспанскай кампаніі *Telefonica*, размешчанае на паўночнай ускраіне Лімы. На золку невядомыя кінулі бомбу з машыны проста да ўваходу ў офіс. Будынак атрымаў нязначныя пашкоджанні, абышлося без ахвяраў. Паліцыі пакуль не ўдалося выйсці на след злачынцаў. Днём раней, як паведамляе мясцовае радыё, невядомыя падкінулі падазроны скрутак пад дзверы рэзідэнцыі амерыканскага пасла ў Ліме. Пад раніцу стала вядома, што ні ўзрывчаткі, ні атрутных рэчываў у скрутку не было.

Другая бомба ўзарвалася ў аўтамабілі, прыпаркаваным каля мурoў пасольства ЗША. Выбуховая прылада спрацавала ўвечары.

Паколькі амерыканскае прадстаўніцтва знаходзіцца ў людным раёне, перад гандлёвым цэнтрам, паблізу ад рэстаранаў і тэатраў, без ахвяраў не абышлося. Як паведамляе паліцыя, загінулі сама менш восем чалавек, у тым ліку некалькі дзяцей. Сярод гэтых васьмі быў хлопчык з ролікавымі канькамі на нагах.

Выбуховая прылада, відавочна, была досыць моцная. У бальніцы дастаўлены дзесяткі параненых. Ад выбуху моцна пацярпелі чатыры будынкі, у тым ліку гандлёвы цэнтр, гатэль і банк. Будынак пасольства атрымаў мінімальныя пашкоджанні. Агенцтвы навінаў тлумачаць гэты факт тым, што амерыканскае дыпламатычнае прадстаўніцтва ў Ліме нагадвае крэпасць. Ад знешняга свету дыпламатаў адгароджвае шасціметровы плот.

Пакуль што ніводная арганізацыя не ўзяла на сябе адказнасці за тэракты. У праваахоўных органаў тым не менш практычна няма сумненняў у тым, што выбухі трэба інтэрпрэтаваць як акцыю застрашвання. Яна прымеркавана да прыезду ў Ліму прэзідэнта ЗША. Джордж Буш мае прыбыць у перуанскую сталіцу 23 сакавіка з візітам.

Ні пра які ісламскі след не паведамляецца – у Лацінскай Амерыцы хапае і сваіх тэрарыстаў.

**Васіль СЯРГЕЕЎ**

# Зона надзеі такой і застаецца

*Перш чым з'явіцца на гаспадарчай карце гораду, свабодная эканамічная зона «Гомель-Ратон» перажыла некалькі трансфармацый. Зразумела, у выглядзе ідэй.*

На пачатку 90-х гадоў, калі ў паветры вітаў дух перамены, меркавалася, што статус вольнай эканамічнай прасторы атрымае ўвесь Гомель. Спецыяльны прававы рэжым зробіць горад прывабным для прадпрымальніцтва і наагул гаспадарчай дзейнасці. Гэта было надзвычай важна, бо Гомель моцна пацярпеў ад Чарнобыльскай катастрофы і страціў прывабнасць.

Пазней ідэя СЭЗ звузілася да навукова-вытворчага аб'яднання «Ратон» і падтрымлівалася, мусіць, адным толькі тагачасным генеральным дырэктарам Сяргеем Сідорскім. Дарэчы, цяпер ён – віцэ-прэм'ер беларускага ўраду.

Толькі 2 сакавіка 1998 году на падставе ўказу кіраўніка дзяржавы гомельская свабодная эканамічная зона набыла рэальныя межы. Гэта – 47 квадратных кіламетраў, альбо тэрыторыя Паўночнага прамысловага вузла гораду, дзе размешчаны дзве з паловай сотні суб'ектаў гаспадарання самага рознага кірунку.

Новая эканамічная структура займела вытворчы, экспартны і мытны сектары. Яе рэсурсамі сталі асноўныя і дапаможныя плошчы канверсійных прадпрыемстваў «Ратон», «Карал», а таксама кваліфікаваныя рабочыя кадры, што раблі на гэтых прадпрыемствах.

Пачынаючы з чэрвеня 1998 году, адміністрацыя СЭЗ, якую ўзначаліў Уладзімір Бык, стала фармаваць сваю рэзідэнтуру. Натуральна, першым рэзідэнтам СЭЗ стала навукова-вытворчае аб'яднанне «Ратон». За ім статус рэзідэнтаў набылі ААТ «Гомелькабель», іншыя прадпрыемствы, якія дзейнічалі на тэрыторыі зоны: беларуска-чэшскае «Чэбел», беларуска-расійскае «Сэлкам», замежныя «Белкэпс» і «Бекер-Сістэм» (Германія), «Мульціпак» і «Каштан» (княства Ліхтэнштэйн).

Трэба сказаць, што першых замежных рэзідэнтаў ці адно не за руку прывялі былы амбасадар Беларусі ў Чэхіі Мікалай Вайцянкоў і той жа дырэктар «Ратону» Сяргей Сідорскі, чыё прадпрыемства супрацоўнічала з германскімі фірмамі.

Зараз у СЭЗ дзейнічаюць 37 рэзідэнтаў. У іх ліку 24 прадпрыемствы, утвораныя з удзелам замежных прадпрымальнікаў: 5 – з Расіі, 4 – з Чэхіі, па 3 – з Ізраіля і Ліхтэнштэйна, 2 – з Германіі. Па адным прадпрыемстве адкрылі ў зоне бізнесоўцы з Кіпру, Кітая, Украіны, Польшчы ды некаторых іншых краінаў.

### Што хацелі – займелі

Ва ўказе Аляксандра Лукашэнкі №93 пра арганізацыю зон «Гомель-Ратон» і «Мінск» вызначаны галоўныя мэты: «прыцягненне айчынных і замежных інвестыцый для стварэння і развіцця вытворчасцей, заснаваных на новых і высокіх тэхналогіях, забеспячэння спрыяльных умоў для эканамічнага развіцця рэгіёнаў».

Рэзідэнты гомельскай СЭЗ заявілі пра ўкладанне агулам у вытворчасць інвестыцый на суму 26,8 мільёна даляраў ЗША, 20 мільёнаў – нямецкіх марак і 2,6 мільярда – беларускіх рублёў.

Рэальна за 4 гады існавання зоны замежныя інвестыцыі склалі ўсяго 11,3 мільёна даляраў ЗША. Гэта, як кажуць, даволі сціплы вынік. Для нагляднасці прывяду толькі адзін факт. Каб рэанімаваць, напрыклад, светлагорскае аб'яднанне «Хімвалакно», патрэбна каля 58 мільёнаў даляраў інвестыцый.

Прадпрыемствы, што прыйшлі ў зону з замежжа, займаюцца тут перш за ўсё выпускам упаковачных матэрыялаў, пластмасавых аконных рамаў, клейкіх стужак, каўпачкоў і коркаў для бутэлек.

Складаную тэхніку (швейныя машыны) выпускае хіба толькі чэшска-беларускае прадпрыемства «Чэбел» ды сталыя гомельскія заводы – «Ратон», «Гомелькабель», «Электраапаратура», «Карал». Яны тэрытарыяльна знаходзіліся ў новаўтворанай свабоднай эканамічнай зоне. Праўда, апошнім часам пра вытворчасць стальных труб без швоў заявіла швейцарская фірма «Упека Індастрыз».

Сярод паказчыкаў, якія характарызуюць дзейнасць СЭЗ, адміністрацыя называе найперш сярэднегадавы прырост аб'ёмаў вытворчасці. Летась, у прыватнасці, ён склаў 132,7%. Гэта ў 9 разоў вышэй, чымсьці ў сярэднім па вобласці.

Другі паказчык – экспарт тавараў, які вырас летась на 27 працэнтаў і склаў 36,6 мільёна даляраў ЗША.

Згадваючы гэтыя лічбы, нельга, аднак, не заўважаць і іншых. Да прыкладу, з 37 рэзідэнтаў амаль трэціну ўсяго экспарту зоны дае завод «Гомелькабель». Да таго ж летась СЭЗ мела адмоўнае знешнегандлёвае сальда: у свабодную зону завезена імпартнай сыравіны, абсталявання, матэрыялаў на 1 мільён 81 тысячу даляраў болей, чымсьці адпраўлена прадукцыі на экспарт.

Усё вышэйзгаданае вымушае нават прадстаўнікоў улады канстатаваць, што за 4 гады існавання зоны сюды не прыйшло значных інвестыцый і новых тэхналогій.

### Клімат

Гутарка, вядома, пра клімат інвестыцыйны. Акурат стабільнасць заканадаўства, палітычнай сітуацыі ў краіне і спрыяльнасць да прытоку інвестыцый.

Між тым за мінулы год статусу рэзідэнтаў свабоднай эканамічнай зоны «Гомель-Ратон» пазбавіліся 8 прадпрыемстваў. Сем з іх, у прыватнасці прадпрымальнікі з Германіі, Польшчы, Літвы, наагул не распачыналі тут гаспадарчай дзейнасці.

Мясцовыя ўлады і адміністрацыя зоны не бачаць у гэтым адмоўных сімптомаў. Маўляў, такая прырода бізнесу: адны прыходзяць, іншыя – сыходзяць.

Самі ж рэзідэнты зоны адкрыта патрабуюць стабільнага падатковага, мытнага заканадаўства. І наагул – пэўных правілаў гульні. У прыватнасці, дырэктар беларуска-чэшскага прадпрыемства «Чэбел» Яраслаў Бедэрка заявіў, што пасля ягонай скаргі ў гарадскую інспекцыю на неабгрунтаваныя санкцыі падаткоўцы літаральна за ноч знялі з рахунку 12 мільёнаў рублёў.

– А што б вы пажадалі беларускім уладам? – пытаюся ў дырэктара.

– Не мяняць так хутка заканадаўства, каб мы паспелі хаця яго пачытаць, – не без іроніі адказаў Бедэрка.

Не разумее ён і пазіцыі беларускага сузаснавальніка прадпрыемства, які імкнецца не развіваць яго, а толькі болей «выкачаць сродкаў».

У ганконгскага прадпрыемства «Айчына», што наважвалася стварыць у Гомельскім аэрапорце адмысловы тэрмінал, у банку «Пошук» заблакавалі ажно 2 мільёны даляраў. Прадпрымальнік, які ўклаў у стварэнне тэрміналу 25 тысяч даляраў, мусіў прадаць яго паляку.

Зрэшты, скардзяцца на ўмовы існавання ў зоне не толькі замежныя інвестары. Прынамсі, дырэктар ААТ «Гомелькабель» Анатоль Байкоў паведаміў, што з той сумы прэферэнцый, якую атрымала прадпрыемства ў зоне на мадэрнізацыю вытворчасці, добрую палову кантрольныя органы ўсё адно забралі ў бюджэт. У выглядзе штрафаў, пені і г.д.

– Кожны год, – пацвярджае намеснік кіраўніка адміністрацыі СЭЗ Уладзімір Траццякоў, – дзяржава прыдумляе штосьці новае. Падаткі стабільна вызначаны, а вось зборы, якія плацяць рэзідэнты, – кожны год прыдумляюць новыя. Назвы іх мяняюць, працэнты, і мы вымушаны гэтыя зборы плаціць. Напрыклад, збор з выручкі ў памеры 2,5 працэнта. Уведзены ён яшчэ ў 2000 годзе. Група нямецкіх прадпрымальнікаў зараз заявіла: «Пакуль не скажаце, што зборы гэтыя плаціць не будзем, датуль не будзем укладаць інвестыцыі». І не таму, што для іх гэтая ноша невыносная. Не! Проста яны ведаюць: калі не дамагчыся стабільнасці, заўтра прыдумаюць што-небудзь іншае.

Сапраўды, у кароткай біяграфіі СЭЗ «Гомель-Ратон» было нямала недарэчнасцяў. Паколькі межы зоны з'яўляюцца адначасова і мытнымі межамі дзяржавы, то, паводле аднаго з ведамасных загадаў Дзяржаўнага мытнага камітэту, кожнае перамяшчэнне тавару павінна было афармляцца як перавоз праз мяжу. Зразумела, са зборам устаноўленай пошліны – 0,15 працэнта ад кошту тавару. Атрымалася сапраўдная пастка. Скажам, каб завезці на «Гомелькабель» з гармалзаводу пару скрыняў кефіру, трэба было дэклараваць яго на пункце мытнага афармлення.

Не мог тавар вывозіцца з мытнай тэрыторыі без афармлення ні на перапрацоўку, ні на рэалізацыю нават унутры краіны. Такім чынам падрываліся адносіны і ўстойлівыя гаспадарчыя сувязі рэзідэнтаў СЭЗ са сваімі беларускімі партнёрамі, не кажучы ўжо пра суседзяў. Гэта выклікала абгрунтаваны пратэст.

Дарэчы, сусветная практыка паказвае: квітучыя свабодныя эканамічныя зоны ўзнікаюць там, дзе на квадратны кіламетр тэрыторыі ўкладзена да 25 мільёнаў даляраў інвестыцый. У лідэраў гэты паказчык дасягае 80 мільёнаў.

СЭЗ «Гомель-Ратон» мае пакуль 240 тысяч даляраў на квадратны кіламетр. Гэта сведчыць пра клімат у беларускіх эканамічных зонах.

### Межы – путы?

Напрыканцы мінулага году Гомельскі аблвыканкам адмысловым рашэннем № 954 зацвердзіў канцэпцыю генеральнага плану развіцця СЭЗ. Распрацаваў яе інстытут «Гомельпраект».

Патрэба выклікана найперш вострым недахопам сродкаў на развіццё інфраструктуры СЭЗ, укараненне новых тэхналогій, стварэнне сервісных прадпрыемстваў для бізнесоўцаў. Да таго ж у горадзе шмат яшчэ так званых ляжачых прадпрыемстваў, якім неабходны фінансавы допінг і чые вытворчыя плошчы патрабуюць гаспадарлівай рукі. Разлік відавочны. Як бы там ні было, але атрыманыя прэферэнцыі ў зоне дазволілі трымацца на паверхні і АТТ «Гомелькабель», і заводу «Электраапаратура». Чым не прыклад! Апроч таго, рэзідэнты ажывілі 71 тысячу квадратных метраў памяшканняў і вытворчых плошчаў, якія проста пуставалі на канверсійных прадпрыемствах «Ратон» і «Карал».

З іншага боку, Паўночны прамысловы вузел гораду, дзе знаходзіцца СЭЗ, па сутнасці вычарпаў рэсурсы сваёй інфраструктуры. Асабліва пячэ экалагі, бо амаль любая вытворчасць – гэта дадатковыя шкодныя выкіды ў атмасферу.

Словам, праз пашырэнне зоны яшчэ на 10 асобных пляцовак гомельскія ўлады небеспадстаўна імкнуцца развіць у паўднёва-заходняй частцы гораду «Новыя будаўнічыя тэхналогіі», «Хімзавод», комплекс «Машынабудаўнік» на аснове радыёзаводу, а таксама «Будаўнічыя матэрыялы» на вуліцы Магілёўскай.

Праз асваенне дзвюх пляцовак «Аэрапорт» і «Аўтасервіс» на аб'язной дарозе плануецца зрабіць мадэль СЭЗ шматфункцыянальнай. Гэта дасць штуршок бяспошліннаму аптоваму гандлю, фінансавай і трастава-кіраўнічай дзейнасці.

Шматфункцыянальны механізм побач з адмысловымі інвестыцыямі новых рэзідэнтаў павінен прыцягнуць у СЭЗ фінансавыя рэсурсы банкаў і страхавых кампаній. Аднак, перш чым цяперашняя зона пашырыць межы, рашэнне павінен прыняць кіраўнік дзяржавы. Гэта першае і, падаецца, найбольш простае. Відавочная складанасць у тым, што клімат павінен стаць іншым. І не столькі ў зоне, колькі ў краіне. У адваротным выпадку новыя квадратныя кіламетры зоны так і застануцца не засеенымі інвестыцыямі.

**Анатоль ГАТОЎЧЫЦ**




**СУВЯЗЬ**

# «Прывілей багатых»

Колькасць беларусаў, што карыстаюцца мабільнай сувяззю ў стандарце *GSM*, склала 150 000 чалавек. Пра гэта паведаміла супрацоўніца аддзелу па сувязях з грамадскасцю кампаніі «Мабільная лічбавая сувязь» Ірына Бігдай.

На сённяшні дзень супольнае прадпрыемства МЛС (гандлёвая марка *Velcom*) – манапаліст на рынку сотавай сувязі стандарту *GSM*. Гэтым і абумоўлены імклівы рост яе кліентуры. Па словах камерцыйнага дырэктара МЛС Роберта Даш'яна, адзнака ў 150 000 кліентаў была дасягнутая датэрмінова. Па звестках прэс-службы кампаніі, усяго сотавай сувяззю ад МЛС можна карыстацца ў 57 гарадах. Зона пакрыцця сеткі *Velcom* – тэрыторыя, дзе жыве 76% насельніцтва краіны.

На сённяшні дзень паслугі ў галіне сотавай сувязі аказваюць у Беларусі дзве кампаніі. Апроч згаданай МЛС, дзейнічае таксама кампанія «Белсел». Аднак гэтая кампанія ажыццяўляе сувязь у больш старым, аналагавым стандарце *NMT*. На практыцы гэта азначае ніжэйшую якасць сувязі ў параўнанні з лічбавым стандартам *GSM*, затое значна вышэйшую зону пакрыцця: для тэлефонаў *NMT* аддлегласць ад Мінску на 60-70 кіламетраў – не праблема, тады як тэлефоны *GSM* не могуць працаваць на дыстанцыі большай за 30 кіламетраў ад базавай станцыі. Паводле інфармацыі сайту кампаніі «Белсел», яна цяпер мае крыху меней за 20 000 абанентаў.

У найбліжэйшы час чакаецца з'яўленне на беларускім рынку яшчэ аднаго сотавай кампаніі стандарту *GSM* – «МТС-Беларусь», але на сёння яна яшчэ нават не зарэгістраваная. Расійскі аператар мабільнай сувязі «*Мобильные телесистемы*» (*МТС*) выйграў летась тэндэр на ліцэнзію ў Беларусі. Паводле ўмоваў конкурсу, цяпер *МТС* мусіць утварыць супольнае прадпрыемства з беларускай дзяржаўнай кампаніяй «Міжгародняя сувязь», дзе Беларусь будзе мець 51%, а Расія – 49%. Як мы ўжо паведамлялі ў мінулым нумары, пачатак працы «МТС-Беларусі» адкладаецца, бо на гэта няма санкцыі Аляксандра Лукашэнкі.

Спадзяванні менш забяспечаных грамадзянаў на тое, што з прыходам буйнога расійскага сотавага аператара на беларускі рынак паслугі мабільнай сувязі стануць таннейшыя, могуць і не спраўдзіцца. Паводле ліцэнзіі, МТС можа пачынаць сваю працу ў Беларусі толькі пасля 17 красавіка гэтага году. Першае, што неабходна будзе зрабіць – гэта разгарнуць сваю сетку базавых станцыяў, праз якія можна будзе перадаваць і прымаць званкі на сотавыя тэлефоны. У кампаніі МЛС на гэта пайшло каля двух гадоў. Расійцы могуць абярнуцца хутчэй, асабліва калі дамовяцца з «Мабільнай лічбавай сувяззю» пра супольнае выкарыстанне базавых станцыяў. Але ў гэтым выпадку не варта чакаць істотнага зніжэння цэнаў.

Няцяжка падлічыць, што на сёння менш за два адсоткі беларусаў карыстаюцца паслугамі сотавай сувязі. Гэта наўпрост абумоўлена ўзроўнем даходаў сярэдняга беларуса, які так і не дачакаўся абяцанага заробку ў 100 даляраў. Сотавая сувязь у Беларусі, на жаль, дагэтуль застаецца «прывілеем багатых» – тым часам як амаль па ўсім свеце мабільны тэлефон стаў амаль такім самым неад'емным ды танным атрыбутам, як асадка або насоўка.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# Юры Хашчавацкі: «Дажыць да любові»

*Кінарэжысёр Юры Хашчавацкі – аўтар вядомых фільмаў «Звычайны прэзідэнт», «Усё до-бра», «Рускае шчасце» і іншых, акадэмік Еўразійскай тэлевізійнай акадэміі, уладальнік гран-пры сусветнага кінафестывалю Human Rights Watch у Нью-Йорку. У яго апошнім фільме «Багі сярпа і молата» разглядаюцца падзеі ў былым СССР і пазіцыя Рускай праваслаўнай царквы. Карэспандэнтка НАШАЙ СВАБОДЫ звярнулася да Ю.Хашчавацкага з пытаннямі пра падставы стварэння гэтай кінастужкі.*

***– Спадар Юры, як узнікла ідэя стварэння такога фільму?***

– Гадоў дзесяць таму мае сябры прапанавалі мне зняць фільм пра Аляксандра Меня. Я сабраў шмат матэрыялу, але грошай на мантаж не хапіла. Тады я зняў далакопа – галоўнага героя стужкі, і знайшоў першую назву фільма «Гібель багоў». Першапачаткова планаваўся фільм пра адыход савецкай ідэалогіі.

У 2000 годзе мне патэлефанавалі з французска-германскага каналу *ARTE* і прапанавалі зрабіць нешта на тэму веры на тэрыторыі былога Савецкага Саюзу. Я прыгадаў сабраныя матэрыялы. На той час пра Рускую праваслаўную царкву я ўжо думаў нашмат горш, чым калі рабіў фільм пра А.Меня. Відавочнымі сталі і гандаль гарэлкай і цыгарэтамі, якім займалася царква, і злоўжыванні, і фальшывая вера, і падтрымка імперскіх настрояў. Я б сказаў, што Лукашэнка нават ад расійскіх уладаў на сёння не мае такой падтрымкі, як ад РПЦ.

Хачу адзначыць асабліва, што мне прапанавалі толькі тэму і ніякіх іншых установак не было. Я працаваў свабодна. У кампанію прадзюсераў увайшло яшчэ Польскае тэлебачанне, і атрымаўся такі супольны праект.

Цяпер фільм «Багі сярпа і молата» дубляваны на некалькі еўрапейскіх моваў.


Фота Ул.ШЛАПАКА

***– У сваім фільме вы рэзка выказваецеся пра дзейнасць РПЦ. Ці была нейкая рэакцыя з іх боку?***

– Не, не было.

***– Як вы можаце гэта патлумачыць?***

– Яны ніколі не ўступаюць у нармальныя дыскусіі, а дзейнічаюць падпольна, як дзеці цемры. Ускосна я магу звязаць фільм са з'яўленнем у выдавецтве «Праваслаўная ініцыятыва» нейкай кнігі, дзе на Хашчавацкага выліваецца шмат бруду, дзе спрабуюць прынізіць мяне як асобу. Не ведаю, чытае гэта хто ці не.

***– Спадар Юры, некаторыя ў такой сітуацыі выбралі б нейтральную пазіцыю, бо паводзіць сябе інакш у нас небяспечна?***

– Вы ведаеце, мне здаецца, што сёння больш небяспечна хавацца. Пра гэта кажа ўвесь мой досвед. Самае небяспечнае – быць шэрым чалавекам, бо астатнія адчуваюць, што ты слабы, што ты баішся, значыць, цябе можна «браць». Да таго ж пасля выхаду фільму «Звычайны прэзідэнт» чаго ўжо мне баяцца? Гэта як на ровары: сеў – круці педалі, інакш паваліўся.

***– Зараз можна пачуць шмат параўнанняў сённяшняй сітуацыі з біблейскімі гісторыямі, як вы да гэтага ставіцеся?***

– Можна па-рознаму тлумачыць Біблію. Гэтая кніга пакідае нам бясконцую колькасць паралеляў з рознымі гістарычнымі сітуацыямі. Можна параўноўваць і з блуканнем па пустэльні, і з хлуслівымі прарокамі, што я і зрабіў у пэўнай ступені ў сваім фільме. Сказана ж у другой, здаецца, запаведзі «не ствары сабе куміра», а нашае грамадства на гэтае забылася.

Якраз у імперыі існуюць такія законы – стварыць сабе куміра, паверыць яму цалкам, аддаць яму ўсе правы і пасля толькі чакаць, каб ён нешта табе зрабіў, нешта табе даў. А калі не зробіць і не дасць, то тады любоў ператвараецца ў нянавісць, тады ранейшых куміраў топчуць, выкідваюць з маўзалеяў.

Вінаватая ў гэтым перадусім Руская праваслаўная царква, якая мела вялікі ўплыў на ментальнае выхаванне грамадства. Справа ў тым, што асноўныя матывы ўчынкаў і дзеянняў расійскіх праваслаўных іерархаў заўсёды абумоўленыя іх імперскай свядомасцю. Так было раней, і так ёсць сёння. Вазьміце, напрыклад, гісторыю расколу ў праваслаўнай царкве сярэдзіны XVII стагоддзя. Рускія цары заўсёды хацелі сабе Балканы. На Балканах таксама жылі праваслаўныя, і ўвесь сэнс рэформаў зводзіўся толькі да аднаго: каб здабыць Балканы, неабходна было ліквідаваць розніцу ў абрадах паміж балканскім і расійскім праваслаўем. Каб тамтэйшае грамадства лягчэй перажыло экспансію. Дзеля гэтага ў Расіі былі крывавыя ахвярапрынашэнні.

***– Якой вы бачыце сёння сваю мэту як мастака і творцы?***

– Мне кажуць апошнім часам, што я раблюся палітыкам «другараднага гатунку». Мне крыўдна, што «другараднага», бо я не палітык і ніколі не хадзіў у палітыку. Але яна сама прыходзіць да нас.

***– Аднак на мінулых прэзідэнцкіх выбарах вы былі ў штабе аднаго з кандыдатаў.***

– Так, я быў у штабе, але не таму, што я палітык, а таму, што хацеў дапамагчы яму прафесійна; і гэта зусім не азначала, што я збіраўся заняць нейкае міністэрскае крэсла ці мею нейкія ўладныя амбіцыі. Я ніколі не ўступаў ні ў якія партыі з таго часу, як мяне выгналі з камсамолу.

***– Над чым вы цяпер працуеце?***

– Новы фільм прысвечаны тэме недагледжаных і кінутых дзяцей. Уся стужка будуецца на беларускім матэрыяле. Але я ўпэўнены, што кінутыя дзеці – гэта ўсеагульная трагедыя, можна нават сказаць, што гэта праблема цывілізацыі. Мноства сённяшніх дзяцей вырастаюць, не ведаючы любові, а кожнаму дзіцяці патрэбная менавіта любоў – гэта адзінае, што злучае людзей, гарантуе спакой, поспех, добрыя стасункі ў грамадстве. Гэта трэба і ўсім нам, інакш нічога не зменіцца ў гэтым жыцці.

Гутарыла
**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

# Галоўныя песні свету

## *Якія ў розных народаў гімны*

*У нас столькі годных варыянтаў гімну, што на тузін Беларусяў хопіць, усялякіх розных. На любую ментальнасць, густ, слых знайсці можна. Але, магчыма, таму і не могуць выбраць беларусы сабе адзін, файны, каб для ўсіх і надоўга. А якія гімны займелі сабе іншыя народы свету?*

Спачатку пра самы кароткі і самы доўгі гімны. Самыя лаканічныя ў гэтым плане японцы: іхны гімн – усяго чатыры радкі са старажытнай паэзіі. Самы доўгі гімн ува Уругваю. У ім ажно адзінаццаць куплетаў па восем радкоў у кожным. Да другой паловы XX стагоддзя самым доўгім быў гімн Кітаю, які спяваўся ледзьве не паўдня, а таму яго замянілі на песню «Марш дабравольцаў» з мастацкага фільму «Дзеці суровых гадоў» пра змаганне з японскімі заваёўнікамі. А вось самая старажытная песня – нацыянальны гімн – у галандцаў. Яна называецца «Вільгельм Насаў» і ўрачыста гучыць тут з сярэдзіны XVI стагоддзя.

Варыянт беларускага гімну «Магутны Божа» на верш Наталлі Арсенневай і музыку Міколы Равенскага блізка стаіць да досыць распаўсюджанай у свеце традыцыі звароту ў гімне да Бога. Прыкладам, у Вялікабрытаніі спяваюць «Божа, беражы каралеву!». Першапачаткова брытанскі гімн называўся і пачынаўся радком «Божа, беражы караля!», бо пісаўся пры каралі Якаве II напрыканцы XVII стагоддзя. «Караля» на «каралеву» слушна замянілі пры валадарстве каралевы Вікторыі I ў XIX стагоддзі. Дарэчы, гэты гімн доўгі час быў інтэрнацыянальны, і ім карысталіся на прыёмах пры манархічных дварах шэрагу еўрапейскіх дзяржаваў.

Яшчэ адзін славуты гімн – французская «Марсельеза», напісаная ў рэвалюцыйным 1792 годзе за адну ноч з 25 на 26 красавіка капітанам страсбургскага гарнізону Клодам Жазэфам Ружэ дэ Лілем пад назвай «Баявая песня рэйнскай арміі». Пісьменнік Стэфан Цвейг назваў дэ Ліля «геніем аднае ночы». Першымі гэтую песню як свой гімн заспявалі рэвалюцыянеры Марселю. Афіцыйным гімнам «Марсельеза» стала ў 1795 годзе. Праўда, пазней час ад часу, калі замест рэспублікі рэстаўравалася імперыя, яе забаранялі. Канчаткова аднавілася яна як гімн у 1879 годзе. Але і пасля гэтага ў «Марсельезе» некалькі разоў мяняліся аранжыроўкі: яна то набывала маршавасць, то пазбаўлялася яе. Цяпер (ад 1981 году) яна зноў маршавая.


Фота Ул.ШЛАПАКА

Такога ж кшталту і амерыканскі гімн «Зорны сцяг», які ўпершыню заспявалі абаронцы амерыканскага форту Макгенры ў англійска-амерыканскую вайну ў 1812-1814 гадах. Тады гэтая песня так і называлася – «Абарона форту Макгенры». Аўтар словаў – адвакат Фрэнсіс Скот Кі. Афіцыйна гімнам яна стала праз сто з лішкам гадоў. І «Марсельеза», і «Зорны сцяг» падобныя да нашага «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

Не пашанцавала нямецкаму гімну, які з'явіўся пасля франка-прускай вайны ў часе патрыятычнага ўздыму на грунце ідэі аб'яднання Нямеччыны са словаў паэта фон Фалерслебена і музыкі Гайдна. Афіцыйны статус гімну гэтая кампазіцыя набыла ў 1922 годзе за Веймарскай рэспублікай. Але пасля Другой сусветнай вайны краіны-пераможцы забаранілі яе, бо радок *Deutschland, Deutschland uber alles* (Германія перадусім) стаў успрымацца зусім інакш, чым тое было, калі ён пісаўся паўтара стагоддзя таму. Тады сэнс укладаўся такі: адзіная Германія мусіць быць у сэрцы кожнага немца ад свайго заходняга крайняга пункту да ўсходняга.

У 1952 годзе забарона на гэты гімн была знятая, але ад яго пакінулі толькі трэці куплет, скасаваўшы *Deutschland, Deutschland uber alles*, і радкі, дзе называліся заходні і ўсходні пункты краіны, бо цяпер гэта тэрыторыі зусім іншых дзяржаваў. Хоць многія народы не палохаюцца ў нацыянальных гімнах месцаў, якія не адпавядаюць цяперашняй рэчаіснасці.

Відаць, каб не было ў гімнах праблемаў, звязаных з палітыкай і ідэалогіяй, няма словаў у галоўных песнях Іспаніі, Ватыкану, Саудаўскай Аравіі і яшчэ шэрагу ісламскіх дзяржаваў. Тое самае цяпер, пакуль не завершыцца конкурс на новы беларускі гімн, ёсць і ў нас – музыка Сакалоўскага. Праўда, мімволі ў галаву ўдаецца старыя словы Клімковіча «Мы беларусы...»

Таксама шмат гарантыяў недатыкальнасці і даўгавечнасці ў гімнаў скандынаўскіх краінаў, дзе проста апяваецца любоў да Радзімы і яе хараство. Напрыклад, нарвежскі гімн называецца «Мы любім гэты край».

Калі б Беларусь узяла за гімн Паланез ля-мінор Міхала Клеафаса Агінскага, яна б далучылася да шэрагу краінаў, дзе аўтарамі нацыянальных гімнаў станавіліся сусветна вядомыя кампазітары. Напрыклад, да Польшчы, якая мае за гімн мазурку Дамброўскага (*Jeszcze Polska nie zginela, kiedy my zyjemy*), напісаную ўжо згаданым Агінскім, да Аўстрыі, дзе ў якасці гімну «Горная краіна, краіна рэк» гучыць урывак з «Масонскай кантаты» Моцарта. А вось расійцы нядаўна адмовіліся ад класікі, замяніўшы глінкаўскую мелодыю на савецкі гімн.

Амаль ва ўсіх краінах знаходзяцца такія, у тым ліку сярод палітыкаў і вядомых дзеячаў культуры, хто публічна выступае за замену існуючых гімнаў. Жорсткія спрэчкі вакол вартасцяў дзяржаўнага гімну вядуцца ў Аўстраліі, дзе ў 1984 годзе гімн Вялікабрытаніі «Божа, беражы каралеву!» замянілі на «Памнажайце хараство Аўстраліі», а цяпер многія хочуць скасаваць і яго, бо ён нібыта сумны. Многія японцы ігнаруюць свой старадаўні гімн «Кімігаё», дзе гаворыцца пра тысячагоддзі імператарскага кіравання. Дастаецца нават такому гімнаваму ўзору, як «Марсельеза».

Як бачым, гімны ёсць усялякія. Адно што навідавоку – гэта амаль заўсёды старыя песні, дзе выяўляецца гісторыя дзяржавы, традыцыя. Хацелася б такі гімн і для Беларусі. Каб ім стала якая наваробка, яна мусіць быць ледзь не геніяльнай.

Кірыла ПАЗЬНЯК

**ПОШТА**

# Вельмі разумны крок

Лічу, што кіраўніцтва БНФ вырашыла абсалютна правільна: не падаваць заяўкі на шэсце па Мінску ў Дзень Волі, каб не атрымаць дазвол на мітынг на плошчы Бангалор. Нарэшце хапіла розуму не паўтарыць ранейшую памылку. Мудра выказаўся франтаўскі кіраўнік Вінцук Вячорка, што цяпер улада не будзе мець падставаў выставіць свае сілавыя кардоны, не забароніць беларусам святкаваць гадавіну ўтварэння БНР. Не было заяўкі – няма чаго забараняць. А кожны сам паасобна прыйдзе да помнікаў Купалу і Коласу і пакладзе да іх кветкі. А калі які міліцыянер прычэпіцца, дык можна сказаць яму: «А што я не па законе зрабіў? Я люблю вершы Купалы «Вечарынка ў калгасе» і «Вазьмі мяне, лётчык, з сабою», а ў Коласа «Мой родны кут, як ты мне мілы...» І не будуць біць у карак і штрафаваць дзеля папаўнення бюджэту. А калі знойдуцца людзі, што заспяваюць «Магутны Божа», дык і добра, бо «Пагоню» ўжо не спяваюць. Аднак лічу няправільным, што ўрачысты вечар, прысвечаны Дню аднаўлення беларускай дзяржаўнасці, пройдзе ў Доме ветэранаў. Нейкая недарэчнае атрымоўваецца спалучэнне: адраджэнне – і прытулак адпачынку састарэлых людзей. Трэба больш адказна падыходзіць да сімвалаў, бо непрыяцелі беларушчыны, без сумневу, з радасцю абвесцяць, што беларускі рух выйшаў на пенсію. Ды і праводзіць вечары ў былым будынку савецкай палітпрасветы, даклад, пляскание ў далоні, гімн для прысутных – саўковыя звычкі. Раней больш весела і дэмакратычна адзначалі нашае вялікае свята.

**Рыгор ЖУБРОВІЧ, Мінск**

# Нескарыстаны сюжэт Міхася Ткачова

У гродзенскім клубе «Паходня» адбыўся вечар успамінаў пра Міхася Ткачова, яго былога прэзідэнта. Кіраўнік «Паходні» Мікола Таранда нагадаў, што яна ўтварылася 12 сакавіка 1986 г., а Ткачоў прыйшоў да пахаднянаў 9 красавіка.

Гісторык, археолаг, прафесар, аўтар выдатных кніг пра беларускае сярэднявечча, галоўны рэдактар энцыклапедычнага выдавецтва, нарэшце – палітык, адраджэнец Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады. Гучалі ўспаміны, музыка. Прысутныя прагледзелі аматарскі відэафільм і два альбомы – 400 здымкаў – пра «Паходню» і Ткачова.

Для мяне самым цікавым было прызнанне прафесара Аляксея Пяткевіча. Ён сказаў, што Міхась Ткачоў марыў пісаць гістарычную прозу і мог бы стаць пісьменнікам. Ягоныя кнігі пра замкі, узбраенні, вайсковыя дзеі напісаны вельмі цікава і захапляльна. Мне самому прыпомнілася, як прафесар Ткачоў, апавядаючы, напрыклад, пра Давыда Гарадзенскага, падкрэсліваў, што жыццяпіс князя – выдатны сюжэт для гістарычнага раману. І што было б вельмі добра, калі б знайшоўся такі пісьменнік, якому ён з задавальненнем падараваў бы сабраныя ў архівах звесткі. На жаль, такога чалавека не знайшлося. Напраўду адчувалася, што Ткачову самому карцела напісаць такі раман, аднак ён рабіў надзвычай шмат іншай працы і не мог заняцца напісаннем мастацкай прозы. А шкада...

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

## Новы слэнг падлеткаў ЗША




Пасля тэрактаў 11 верасня 2001 году нефармальная лексіка амерыканскіх падлеткаў узбагацілася новымі выразамі: цяпер яны клічуць адзін аднаго «тэрарыстамі» і «усамамі». Месца тусоўкі называецца «нулявая адзнака». Пра нешта малазначнае кажуць: «Ну, гэта як 10 верасня», а калі кагонебудзь не могуць знайсці, то можна пачуць: «Яго адшукаць цяжка, як Усаму бін Ладэна».

Паводле інфармацыі *The Washington Post*, «тэрарыстамі найчасцей называюць асабліва строгіх настаўнікаў, а калі такі «тэрарыст» ставіць кепскую адзнаку, то гэта будзе «поўны джыхад». Сваіх дзівакоў-таварышаў тынэйджэры могуць клікаць «талібамі».

Часцяком, як адзначае газета, такімі мянушкамі надзяляюць школьнікаў арабскага паходжання.

## Тайна гібелі генерала Сікорскага

Катастрофа ці дыверсія? Спрэчкі пра гэта не сціхаюць цягам амаль шасцідзесяці гадоў пасля гібелі паблізу Гібралтару 4 ліпеня 1943 году чалавека, які мог бы ўзначаліць Польшчу пасля вайны. Сікорскі быў прэм'ер-міністрам на пачатку 20-х гадоў, а ў часе вайны з Германіяй ачольваў польскі ўрад у эміграцыі і карыстаўся аўтарытэтам у палякаў.

Вяртаючыся ў Англію пасля інспекцыі польскіх карпусоў, дыслакаваных на Блізкім Усходзе, Сікорскі зрабіў прыпынак у брытанскай калоніі Гібралтар. Адсюль ён вылецеў аб 11-й вечара на сваім самалёце, бамбавіку «Ліберэйтар». Спачатку самалёт набіраў вышыню як звычайна, але раптам пачаў марудна пікіраваць, і ўжо перад падзеннем у мора маторы бамбавіка заглухлі зусім.

З 17 чалавек, што знаходзіліся на борце, у жывых застаўся толькі пілот, чэх па нацыянальнасці, які ў сваіх паказаннях сцвярджаў, што ў яго пасля ўзлёту перастала працаваць сістэма кіравання. Расследаванню так і не ўдалося высветліць дакладную прычыну авіякатастрофы, аднак версія пра дыверсійны акт чамусьці была выключана.

Праведзенае англічанамі ў 1969 годзе другое расследаванне, вынікі якога былі апублікаваныя праз трыццаць гадоў, прыйшло да высновы, што, магчыма, мела месца дыверсія.

«На працягу 20 гадоў я лічыў, што катастрофа ля Гібралтару відавочна была няшчасным выпадкам. Але на падставе таго, што я даведаўся апошнім часам, лічу дыверсію не проста «вельмі верагоднай», а «магчымай», – сказаў Норман Дэвіс, прафесар гісторыі Оксфардскага ўніверсітэту. Як ініцыятар дыверсіі найбольшыя падазрэнні выклікае Іосіф Сталін, які выйграў ад ліквідацыі непрыемнага яму змагара за незалежную Польшчу. Магчымасць удзелу ў дыверсіі Вялікабрытаніі таксама абмяркоўваецца. Нядаўна радыё *BBC* перадавала праграму, у якой абмяркоўваліся абодва гэтыя сцэнарыі. Яна выклікала сенсацыю спасылкамі на крыніцы, якія сцвярджалі: генерал Сікорскі, магчыма, стаў ахвярай польскіх групаў, якія варожа ставіліся да яго гатоўнасці мець справу са Сталіным.

Смерць Сікорскага працягвае інтрыгаваць сваёй таямніцай.

**Сташак СЯНКЕВІЧ**

# Жанчына, якая «стварыла» геній Набокава

*Яе звалі Вера Слонім, і яе жыццё пацвярджае афарызм, паводле якога за спінай выдатнага мужчыны заўжды стаіць яшчэ больш выдатная жанчына.*



У 1950-х гадах прафесар Уладзімір Набокаў выкладаў гісторыю літаратуры ў Карнуэльскім універсітэце. У адрозненне ад іншых выкладчыкаў, Набокаў лічыў магчымым перад студэнтамі граміць творы геніяў, ён мог упэўнена заявіць, што «Браты Карамазавы» – дрэнны раман, а Сервантэс не ведаў атмасферы, у якой разгорталіся падзеі «Дон Кіхота». Падобныя меркаванні пярэчылі агульнапрынятым поглядам, і, можа, дзякуючы гэтаму пісьменнік карыстаўся папулярнасцю сярод сваіх слухачоў.

Аднак найбольш гаварылі пра тое, што Набокаў ніколі не прыходзіў на лекцыі адзін. Аўтамабілем, які прывозіў яго ўва універсітэт, кіравала сівая шляхетнага выгляду дама. Прыпаркаваўшы аўто, яна падавала Набокаву руку і ішла з ім разам у аўдыторыю. Там яна сядала пры кафедры, злева ад пісьменніка. Таямнічая дама захоўвала маўчанне на працягу ўсёй лекцыі, у той час як Набокаў звяртаўся да яе «мой асістэнт» і прасіў, напрыклад, намаляваць крэйдай на дошцы прыгожы жаночы твар ці знайсці пэўную старонку ў творы, які ён каментаваў.

Выкшталцоная, прывабная, гэтая жанчына хутка ператварылася ў рэферэнта, неабходнага ў Карнуэле, памнажаючы домыслы аб сваёй сапраўднай ролі. Безумоўна, усе ведалі, што яна была жонкай Набокава, але вось тлумачэнні яе прысутнасці ў аўдыторыі мелі шырокі спектр. Некаторыя студэнты думалі, што на самой справе яна была маці прафесара, а не жонка. Былі і такія, хто сцвярджаў, што яна целаахоўнік прафесара і трымае ў торбачцы пісталет, каб у выпадку небяспекі яго скарыстаць. Але нямала было і тых, хто лічыў, што яна служыла проста фізічнай перашкодай для маладзенькіх студэнтак, якія занадта намагаліся наблізіцца да выкладчыка. Паколькі гэтая дама часам правярала экзаменацыйныя працы і нават вяла замест Набокава ягоны курс па літаратуры, не дзіва, што такія здагадкі множыліся.

Насамрэч усё было прасцей.

Вера Слонім – такое імя і прозвішча насіла гэтая жанчына да шлюбу – нарадзілася ў 1902 годзе ў Пецярбургу ў багатай габрэйскай сям'і выхадцаў з беларускага гораду Слоніму. Па звычаі габрэяў-перасяленцаў з-за былой мяжы аседласці ў расійскія гарады ранейшая мясціна пражывання захавалася ў «русіфікаваным» прозвішчы. У 1921 годзе Слонімы пакінулі бальшавіцкую Расію. Пасля працяглых вандровак па розных краінах Еўропы Слонімы аселі ў Берліне, які тады, як і Парыж, стаў прытулкам белай эміграцыі. Менавіта ў Берліне Вера пазнаёмілася з Уладзімірам Набокавым. У адрозненне ад большасці эмігрантаў, Набокавы не былі прыхільнікамі зрынутага самаўладдзя. Бацька пісьменніка – Уладзімір Дзмітравіч Набокаў – уваходзіў у склад Часовага ўраду, быў рафінаваны інтэлігент і даў сыну добрае выхаванне.

Вера была зачараваная маладым Уладзімірам Набокавым і да таго ж здолела адчуць у свайго прыяцеля патэнцыял літаратурнага генія. Яна не належала да тых жанчын, якіх нядахоп адукацыі ці сямейныя клопаты робяць нябачнымі ў святле адоранага мужа. У Сарбоне, дзе Вера Слонім вучылася, яна паказала сябе выдатнай студэнткай і перспектыўным навукоўцам. Але яна без ваганняў пакінула навуковую кар'еру, каб цалкам прысвяціць сябе поспехам мужа.

У 1938 годзе, калі ніхто не сумняваўся, што хутка пачнецца вайна, Вера пераканала мужа пераехаць у Нью-Йорк, што адкрыла яму шлях да славы ў англамоўным свеце, якая прыйшла праз два дзесяцігоддзі. У Злучаных Штатах яе роля жонкі была нашмат важнейшая, бо Вера Слонім ніколі не глядзела на Амерыку як на месца адпачынку, а хутчэй як на стартавую пляцоўку, з якой творы яе мужа павінны былі пачаць высокі ўзлёт. Кожная гадзіна Веры была прысвечана мужу. Нават захварэўшы на запаленне лёгкіх і мусячы заставацца ў ложку, яна перадрукоўвала на машынцы напісанае Набокавым. Вера ніколі не дазваляла мужу спыніць літаратурную дзейнасць дзеля бягучага заробку, хоць часам даўгі літаральна душылі сям'ю.

Менавіта Вера выратавала з агню «Лаліту», калі Набокаў, змораны бясконцымі перараробкамі рукапісу, вырашыў кінуць яго ў камін. Менавіта яна правіла сцэны з раману пра забароненае каханне. Гэта быў сапраўдны ўчынак самаадданасці. Вера, якая была супраць таго, каб іхні сын чытаў у дзяцінстве творы Марка Твэна, бо ў іх сустракаліся грубыя выразы, вычытвала і перадрукоўвала на машынцы твор пра гісторыю нездаровага кахання старога выкладчыка да малой дзяўчынкі. Пры пастаноўцы аднайменнага фільму розніцу паміж двума галоўнымі героямі твора змякчылі, ператварыўшы Джэймса Мэйсана ў проста дарослага чалавека, а Сью Лаян – у падлетка, але арыгінальны тэкст уцягваў – і гэта разумелі і Вера, і ўсе сучаснікі – у пакрыты шыпамі свет педафіліі. Аднак Вера вырашыла, што «Лаліту» варта ўратаваць для чытача.

Сярод абавязкаў, якія яна ўсё жыццё выконвала, была і роля кіроўцы сямейнага аўтамабіля, і заключэнне кантрактаў з выдавецтвамі – да гэтай справы яна падыходзіла з жорсткасцю, якая выклікала зайздрасць у самых дзёрзкіх літаратурных агентаў, – і нават збор матэрыялу для некаторых будучых твораў мужа: прыкладам, яна запісала свае ўспаміны пра першыя гады жыцця сына, каб Набокаў мог напісаць «Памяць, кажы». Вера займалася праўкай апавяданняў, якія Набокаў пісаў на нямецкай мове, рэдагаваннем італьянскай паэзіі, а калі ёй было 80 гадоў, яна пачала працу над перакладам «Цьмянага полымя».

Уладзімір Набокаў памёр у 1977 годзе, Вера перажыла мужа амаль на 15 гадоў. Усе гады ўдаўства яна прысвяціла цяжкай працы, якую ад яе чакалі. Кожны пераклад, кожнае новае выданне твораў Набокава клапатліва правяраліся Верай, і ў гэты ж час яна перакладала кнігі мужа на іншыя мовы.

Відаць, не будзе недахопу ў тых, хто падумае, што Набокаў меў служанку, а не жонку, і таму ягоны талент своеасабліва паразітаваў на жаночай самаадданасці. Тым не менш сапраўднае каханне стаіць вышэй за грамадскія прымхі і мяшчанскія стэрэатыпы, і ніхто не абвергне, што Уладзімір Набокаў і Вера Слонім былі шчаслівыя на працягу 52 гадоў сумеснага жыцця. Сустрэць на ўзаемнай павазе і каханні залатое вяселле – такое, варта прызнаць, здараецца далёка не з кожным на гэтым свеце.

**Сесар ВІДАЛ**

## НАГОДА ЎСПОМНІЦЬ

### 22 сакавіка

**1312.** Папа Рымскі Клімент V распусціў каталіцкі духоўнарыцарскі ордэн тампліераў (храмоўнікаў), прызнаўшы іх ерэтыкамі за некаторыя нехрысціянскія абрады. А двума гадамі раней на вогнішчы былі спалены магістр Ордэна Жак дэ Мале. Ордэн быў заснаваны ў 1119 годзе бургундскім рыцарам Гуго дэ Пэйнам і займеў назву Ордэн храмоўнікаў пасля таго, як кароль Балдуін перадаў яму ў Ерусаліме замак блізу мясціны, дзе колісь знаходзіўся храм Саламона.



**1832.** Памёр адзін з самых вядомых нямецкіх пісьменнікаў Ёган Вольфганг Гётэ, аўтар славутага «Фаўста».

**1907.** На вуліцах Лондану з'явіліся першыя таксоўкі з лічыльнікамі. Дарэчы, тады і ўзнікла назва гэтага новага віду гарадскога транспарту – паводле назвы гэтых лічыльнікаў – таксіметраў (ад французскага слова *taxe* і грэцкага *metron*, што азначаюць адпаведна «плата» і «вымярэнне»). Яны пазбавілі кіроўцаў і пасажыраў ад спрэчак наконт таго, колькі трэба плаціць за паездку.

### 23 сакавіка

**1842.** Памёр французскі пісьменнік Стэндаль (сапраўднае прозвішча – Анры Мары Бейль). Самы вядомы ягоны раман – «Чырвонае і чорнае».

**1852.** Самы хуткі хет-трык у гісторыі НХЛ зрабіў нападаючы клубу «Чыкага Блэк Хоўкс» Біл Масіенка. Для гэтага яму спатрэбілася ўсяго 21 секунда пры гульні ў роўных складах.

**1857.** У адной з нью-йоркскіх крамаў усталявалі першы ў свеце бяспечны ліфт – гэта значыць з тормазам, які выратуе нават пры абрыве тросу.

### 24 сакавіка

**1794.** У Кракаве Тадэвуш Касцюшка быў абраны на Кіраўніка паўстання і абвясціў аб пачатку барацьбы за незалежнасць Рэчы Паспалітай ад Расійскай імперыі. Увосень паўстанне задушана расійскімі войскамі пад камандаваннем Аляксандра Суворава. Праз год адбыўся трэці падзел Рэчы Паспалітай, які паклаў канец існаванню гэтай дзяржавы.

**1882.** У Берліне нямецкі вучоны Роберт Кох абвясціў, што адкрыў узбуджальнік туберкулёзу («палачку Коха»). Яшчэ праз год Кох знайшоў і ўзбуджальнік халеры. У 1905 годзе вучонаму была прысуджана Нобелеўская прэмія ў галіне медыцыны.



**1926.** Нарадзіўся італьянскі драматург Дарыо Фо, нобелеўскі лаўрэат 1997 году. Фо прытрымлівацца камуністычных поглядаў, і калі стала вядома, што яму далі Нобеля, ягоная жонка ўсклікнула: «Бог ёсць, і ён – камуніст»

**1949.** Упершыню кінапрэмію «Оскар» як лепшы фільм атрымала неамерыканская стужка – ангельская экранізацыя «Гамлета». Да ўсяго выканаўцу галоўнай ролі Лоўрэнса Аліўе назвалі тады ж найлепшым акторам.

### 25 сакавіка

**752.** Усяго праз два дні пасля абрання на Папу Рымскага памёр ад апаплексічнага ўдару Стэфан II. Ён нават не прайшоў адмысловага абраду пасвячэння, і таму ягонае імя не ўключана ў шэраг пантыфікаў.

**1857.** Упершыню сфатаграфавана сонечнае зацьменне. Сонечныя зацьменні адбываюцца два разы на год, але поўныя – раз на 360 гадоў у якой-небудзь адной мясціне.

**1918.** Абвяшчэнне Трэцяй устаўной граматы, якая дэкляравала дзяржаўнае існаванне Беларускай Народнай Рэспублікі. У гэты ж дзень Мінск вярнуў сваю гістарычную назву «Менск».

**1947.** Нарадзіўся рок-музыка Элтан Джон, уладальнік 5 прэмій *Grammy*, 32 залатых і 21 плацінавага дыскаў, прададзеных у ЗША тыражом болей за 60 мільёнаў.

### 26 сакавіка

**1826.** Аўстрыйскі кампазітар Франц Шуберт даў адзіны ў жыцці публічны канцэрт.

**1892.** Пайшоў з жыцця самы вядомы і папулярны амэрыканскі паэт Уолт Уітмэн.

**1949.** Нарадзіўся нямецкі пісьменнік Патрык Зюскінд. Папулярным ён стаў пасля таго, як свет пабачыў ягоны раман «Парфюмер» (у іншых перакладах – «Водар»).

### 27 сакавіка

**1845.** Нарадзіўся Вільгельм Рэнтген, нямецкі фізік, што адкрыў у 1895 годзе так званыя рэнтгенаўскія промні і стаў у 1901 годзе першым лаўрэатам Нобелеўскай прэміі па фізіцы.

**1855.** У ЗША запатэнтавалі газу (англ. *kerosene*), якая здабываецца шляхам дыстыляцыі нафты ці крэкінгу цяжкіх нафтапрадуктаў.

**1914.** У шпіталі бельгійскай сталіцы Брусэля зрабілі першае ў свеце пераліванне крыві.

**1968.** Падчас трэніровачнага палёту на самалёце ва ўзросце 34 гадоў разбіўся першы касманаўт Зямлі Юрый Гагарын, родам са Смаленшчыны.

**1990.** У Лондане на Бейкерстрыт, 221, адкрыўся музей Шэрлака Холмса, самага вядомага ў літаратуры прыватнага дэтэктыва.



**1998.** У ЗША ў Атланце ўстаноўлены рэкорд наведвальнасці баскетбольнага матча. Гульню НБА «Атланта» – «Чыкага» глядзелі 62.046 заўзятараў.

**1977.** Самая буйная авіякатастрофа ў свеце. На Канарскіх астравах сутыкнуліся два самалёты «Боінг», загінулі 585 чалавек.

### 28 сакавіка

**1797.** У ЗША запатэнтавана пральная машына.

**1939.** Армія Франко захапіла Мадрыд. На наступны дзень «рэспубліканцы» спынілі супраціў, і грамадзянская вайна ў Іспаніі скончылася.

**1969.** Па ўсёй Чэхаславаччыне адбыліся стыхійныя дэманстрацыі з нагоды перамогі чэхаславацкай хакейнай зборнай над камандай СССР 4:3. Былі нават напады на савецкія ваенныя гарнізоны. Чэхі і славакі доўга не маглі забыць уводу савецкіх войскаў на тэрыторыю сваёй краіны ў 1968 годзе.

**1974.** Прэзідэнтам Румыніі на паўтара дзесятка гадоў стаў Нікалае Чаушэску. У часе снежаньскага народнага паўстання ў 1989 годзе расстраляны.

Падрыхтаваў **Кірыла ГЛЁКАЎ**

Галоўны рэдактар **Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, вул. Рафіева, д.25, корп.1. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдадзена з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1136 Нумар падпісаны ў друк 21/03/2002 (15:00) Наклад – 8.160